# Беларускі калекцыянер

№21 Травень 2000г. Кошт свабодны


## Ад рэдакцыі

Шаноўныя сябры! Па даручэнню рэдакцыі Міхась Верацiла працуе над складаннем каталогу беларускіх латарэйных квіткоў. У гэты каталог плануецца ўключыць звесткі пра ўсе вядомыя латарэі, што распаўсюджваліся ў Беларусі ў самыя розныя часы. Праца такая ажыццяўляецца ўпершыню і аўтару бракуе звестак пра латарэі асобных перыядаў беларускай гісторыі. Таму хацелася б звярнуцца да ўсіх зацікаўленых асоб па дапамогу ў складанні «Каталогу беларускіх латарэйных квіткоў». Нас цікавяць усе звесткі пра малавядомыя латарэйныя квіткі. Іх выявы, апісанне, асаблівасці і інш. З гэтага нумару «БК» мы пачынаем друкаваць матэрыялы да «Каталогу беларускіх латарэйных квіткоў». Пасля дапаўненняў і ўдакладненняў каталог мяркуем выпусціць асобным выданнем. У будучы каталог плануецца ўключыць наступныя раздзелы:

1. Латарэі Расіі ды інш., што распаўсюджваліся ў Беларусі да 1917г.
2. Латарэі РСФСР і СССР, што распаўсюджваліся на тэрыторыі Беларусі ў перыяд 1922–1945 гадоў.
3. Латарэі Польшчы, што распаўсюджваліся на тэрыторыі Беларусі ў 1918 – 1939 гады.
4. Агульнадзяржаўныя латарэі СССР з 1957 па 1991 гады.
5. Грашова-рэчавыя латарэі БССР з 1958 па 1991 гады.
6. Латарэі незалежнай Рэспублікі Беларусь з 1991 па 2000 гады.
7. Прыватныя латарэі на тэрыторыі Беларусі.
8. Мясцовыя, рэгіянальныя, гарадскія і інш. латарэі Беларусі.

Шаноўныя сябры! Свае прапановы, парады, а таксама звесткі пра беларускія латарэйныя квіткі Вы можаце дасылаць на адрас рэдакцыі ці непасрэдна складальніку «Каталога беларускіх латарэйных квіткоў» спадару Міхасю Верацілу на адрас: вул. Міру, д.13. г.п. Краснасельскі, Ваўкавыскі р-н, Гарадзенская вобл., 231911.

Выява «Пагоні» з газеты Беларускага замежжа ў Амэрыцы «Беларускі Дайджест».



Калекцыянеры газет могуць замовіць асобнік у рэдакцыі «БК».










## У каталог беларускіх латарэйных квіткоў

Першымі на ідэю складання «Каталога беларускіх латарэйных квіткоў» адгукнуліся спадар Руслан Равяка з Баранавічаў і спадар Бачкоў з Бабруйска. Руслан Равяка даслаў арыгінальныя асобнікі двух баранавіцкіх латарэяў, што праводзіла АП «Фартуна» да 50-годдзя Перамогі ў 1995 годзе і да 8 сакавіка ў тым жа годзе.

Бабруйскі калекцыянер латарэйных квіткоў спадар Бачкоў даслаў ксеракопіі двух бабруйскіх латарэйных квіткоў. Гэта квіткі «Благотворительной художественной лотереи» і «Денежно-вещевой лотереи» беларускага аддзялення кінематаграфічнага фонду СССР «Гемма». Шчыра Вам дзякуем, шаноўныя спадары. Толькі агульнымі намаганнямі мы зможам спрыяць развіццю беларускага калекцыянанання.



сьвет 20 сакавіка 1992 году, яе аформіў мастак Комлеў, выдадзеная яна ў Маскве, як і бальшыня першых беларускіх марак, накладам 2 мільёны паасобнікаў. Пазначана й цана – адзін рубель. Дарэчы, спачатку была ідэя выдаць першай марку, прысьвечаную Рыгору Шырму. Яна




стала другой. Дык вось, гэта адзіная марка, дзе пазначаны намінал – 20 капеек, а потым мы вырашылі зьняць з марак увогуле словы: і "рубель" і "капейка", спадзеючыся, што ў недалёкай пэрспэктыве будзе уведзены талер. Таму й па сёньняшні дзень на беларускіх марках Вы ня ўбачыце слова "рубель". З майго гледзішча, гэта вельмі важна. Многія краіны таксама не ўказваць назву валюты. А савецкія маркі былі, я сказаў бы "калгаснага тыпу", дзе пісалі і "капейку" і "рубель".

*(Ракіцкі:)* "Ужо на першых марках пачалі назоў нашае краіны пісаць і па-беларуску, і па-ангельску... Вы сказалі, што першыя маркі былі надрукаваныя ў Маскве. Сёньня мы ўжо маем сваю і нядрэнна наладжаную вытворчасьць на выпуску марак..."

*(Трусаў:)* "Вы маеце рацыю, бо як толькі Лукашэнка прыйшоў да ўлады, то наша камісія накіравала яму ліст, а я нават быў у яго й на прыёме. Адно з пытаньняў, якія разглядаліся – гэта наладжваньне ўласнае базы друку марак. Я яму распавёў, які прыбытак ў валюце будзе мець Беларуская дзяржава, калі будзе выдаваць уласныя маркі. Ён паслухаўся нашых прапаноў і аддаў адпаведны загад. Так у 1995 годзе абсталяваньне было закупленае. І пачынаючы прыкладна з 1995 году нашыя маркі, як правіла, друкуюцца ў нас, у Менску".

*(Ракіцкі:)* "І ледзь не адразу пасьля таго Лукашэнка аддаў загад надрукаваць марку са сваёй выяваю і подпісам "Першы прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь". Дарэчы, абсалютна ўнікальны выпадак: тая марка сталася ці не самай папулярнай беларускай маркаю... Гэта, здаецца, нонсэнс..."

*(Трусаў:)* "Па-першае, не адразу. Яна выйшла ўжо пасьля лістападаўскага рэфэрэндуму 1996 году, 6 сьнежня, сталася вынікам рэфэрэндуму. Гэта марка паказала ўсяму сьвету, што дэмакратыя ў Беларусі канчаткова сканала, бо пры жыцьці ў сусьветнае філятэліі выдаюць толькі партрэты каранаваных асобаў. Гэтае правіла захоўваецца яшчэ зь першае маркі. А некаранаваная асоба, якая друкуе на марках свой партрэт пры жыцьці, гэта – дыктатар. Першым такім дзеячом быў Сталін. Потым былі маркі з выяваю Брэжнева, але не як партрэт, а толькі ў нейкіх кампазыцыях. А вось пэрсанальнае маркі з выяваю Брэжнева з усімі ягонымі маршалаўскімі зоркамі ў прыродзе не йснуе. Нават Брэжнеў разумеў, што гэта не зусім добра.

У Эўропе выпускалі маркі зь безьліччу сваіх выяваў такія дыктатары, як Гітлер і Франка. У сьвеце йснуе шмат філятэлістаў, якія зьбіраюць маркі з выявамі дыктатараў і розных іншых дзеячоў дыктатарскіх рэжымаў. Прыкладам, ў Польшчы вялікай папулярнасьцю карыстаюцца маркі з выяваю Дзяржынскага. Вось і Лукашэнка траліў у гэтую абойму. На былой тэрыторыі СССР, наколькі мне вядома, ёсьць некалькі марак з выявамі Назарбаева, Туркмэн-башы..."

*(Ракіцкі:)* "Як Вы ставіцеся да аднае з апошніх марак, прысьвечаных Сухому, – з выяваю тых самалётаў, якія бамбуюць Чачню ды іншыя краіны?"

*(Трусаў:)* "Я станоўча стаўлюся да гэтае выявы. Самалёт




добры, іншая справа, у чыіх ён руках. Я вельмі рады, што нарэшце мы пачалі вяртаць сабе імёны нашых землякоў. Спадар Сухі – ураджэнец Гомельшчыны, беларус этнічны, ён зрабіў самы лепшы баявы самалёт у сьвеце. І, дарэчы, Сухому была прысьвечаная таксама адмысловая капэрта зь ягоным партрэтам. Мне здаецца, што такія маркі цалкам маюць права на йснаваньне ў вадрозьненьне ад марак з выяваю прэзыдэнта. Сухі памер, а яго самалётам можа ганарыцца кожны беларус, як, да прыкладу, расейцы ганарацца аўтаматам Калашнікава".

*(Ракіцкі:)* "Практычна ўсе людзі заўважылі, што пасьля тых ганебных лукашэнкавых рэфэрэндумаў, зьявіліся маркі з выявамі новага дзяржаўнага гербу, сьцягу. Але раптам яны зьніклі, а замест іх сяньня ў продажы вельмі прыгожыя, вельмі сымпатычныя маркі-мініятуры з малюнкамі рэчаў матэрыяльнае беларускае культуры..."

*(Трусаў:)* "Тут адыграла ролю эканоміка. Маркі зь мініятурнымі мастацкімі выявамі карыстаюцца попытам калекцыянэраў ва ўсім сьвеце. Так, Нямеччына выпускае аналягічныя маркі з выявамі розных помнікаў архітэктуры. І тое, што мы нарэшце пайшлі па эўрапейскім шляху – гэта гаворыць аб тым, што ў мастацкай радзе, якая рэгулюе выпуск паштовых марак, знаходзяцца вельмі разумныя людзі".

*(Ракіцкі:)* "Ці ня маем мы справу з, так бы мовіць, "падвойным стандартам"? З аднаго боку, у нашае краіне гэтая ўлада зьнішчае культуру, мову. На марках жа нашая культура мае сваё адлюстраваньне..."

*(Трусаў:)* "Мне здаецца, тут спрацоўвае фактар нацыянальнае дзяржавы. Якая б ні была ўлада, яна кіруе ўсё ж такі незалежнай дзяржаваю, і дзякаваць Богу г.зв. "саюзы з Расеяй" пакуль што цалкам "віртуальныя". Ёсьць пэўныя законы незалежнае дзяржавы, якія ўсё роўна вымушаюць рабіць менавіта так, а ня йнакш. Дыктатар вельмі любіць быць незалежным, праўда, вонкава. Гэта адразу адлюстроўваецца ва ўсіх вонкавых праявах, у тым ліку ў філятэліі".










*(Ракіцкі:)* "Давайце падсумуем. На Ваш погляд як адмысловца – чым мы можам ганарыцца ў філятэлістычнай справе?"

*(Трусаў:)* "Вельмі важна, што мы ўпершыню на сваіх марках паказалі ўсяму сьвету нашых гістарычных асобаў. Адная зь першых марак, напрыклад, была прысьвечана Рагвалоду й Рагнедзе. Гэтыя маркі былі надрукаваныя 31 сьнежня 1993 году, кожная накладам 826 000 паасобнікаў. Такія маркі – гэта гонар нашае нацыі. Яны гавораць аб тым, што нашай гісторыі 1000 гадоў. Упершыню выдалі мы й марку з партрэтам Мікалая Радзівіла Чорнага – 17 сьнежня 1996 году".

*(Ракіцкі:)* "Наколькі я ведаю, нават палякі не выдавалі..."

*(Трусаў:)* "Так, і летувісы таксама... Далей. Упершыню мы выдалі цудоўную сэрыю, прысьвечаную нашым мастакам – Пётру Сяргіевічу, Фэрдынанду Рушчыцу і Язэпу Драздовічу.







Унікальная сэрыя. Яшчэ адная ўнікальная сэрыя, прысьвечаная выдатным беларускім асобам – канцлеру ВКЛ Льву Сапегу, Казіміру Семяновічу – аўтару ўсясьветнавядомых ракетаў. Між іншага, Семяновіча хто толькі не прысвойваў: і палякі, і летувісы, і нават расейцы. Нарэшце, выдатнаму літаратару і асьветніку – Сімяону Полацкаму".

*(Ракіцкі:)* "Дарэчы, вельмі папулярнай стала марка, на якой ёсьць выява маёнтку Рэпіна..."

*(Трусаў:)* "Так. Нашая камісія была ініцыятарам выданьня гэтае маркі, гэта счэпка дзьвюх




марак. На адной зь іх маёнтак Рэпіна, а на другой – шырока вядомы малюнак Рэпіна, падпісаны "Беларус". У канцы XIX стагодзьдзя, калі беларусаў не лічылі за народ, Рэпін зрабіў нам рэкляму. Ён намаляваў чалавека, прытым маладога, здаровага, не з каўтуном і ў не лапцёх, а сымпатычнага, з прыемнай усьмешкаю шляхцюка.

Вось такім чынам мы і ўшанавалі памяць Рэпіна, гэта была вялікая дата – 150 гадоў зь дня ягонага нараджэньня. Таксама была выпушчаная і адмысловая капэрта. Самае цікавае тое, што Расея «праспала» гэты юбілей.

Дарэчы, вельмі важна, якая першая марка. Наша першая марка – гэта крыж Эўфрасіньні Полацкай. А першая марка незалежнае Расеі – гэта сэрыя з выяваю Бурашна. Нашая першая марка зь выяваю крыжа Эўфрасіньні Полацкай, мне здаецца, назаўжды ўвайшла ў гісторыю як айчыннай, гэтак і ўсясьветнай філятэліі як знаходка".

*(Ракіцкі:)* "На Ваш погляд, нашыя маркі адпавядаюць увясьветнаму стандарту?"

*(Трусаў:)* "Далёка ня ўсе. Але лепшыя зь іх варыварыянты

*(працяг на 4 стар.)*

адпавядаюць. Да ўсясьветных стандартаў нам яшчэ трэба прайсьці даўгі шлях. Для гэтага трэба новая тэхналёгія, новая тэхніка, новыя матэрыялы, аднак мне было вельмі прыемна, калі я быў у філятэлістычных крамах Польшчы й бачыў там беларускія маркі. Сярод іх – маркі, прысьвечаныя юбілею Нясьвіжа й марка з выявaю Адама Міцкевіча. І ў нямецкіх крамах я бачыў асобныя нашыя маркі. Такім чынам, мы паступова займаем гэтую нішу. Іншая справа, што напрыклад, я вельмі сумую з таго, што спынілася ўнікальная сэрыя гербаў беларускіх гарадоў. З прыходам да ўлады Лукашэнкі гэтая сэрыя была практычна забароненая. Аднак сэрыя архітэктуры, архітэктурных помнікаў па-ранейшаму рэгулярна выходзіць, папаўняецца новымі маркамі. Ужо выйшла некалькі дзясяткаў гэтых марак. Я лічу гэта гонарам нашае філятэліі".

*(Ракіцкі:)* "Спадар Трусаў, Вы першы ў нашай краіне распрацавалі курс гісторыі беларускае філятэліі і чытаеце яго ў Беларускім унівэрсытэце культуры. Ці ёсьць у вашых студэнтаў зацікаўленасьць гэтым прадметам?"

*(Трусаў:)* "Вельмі добра ставяцца, таму што я чытаю лекцыі будучым музэйнікам, а ў любым музэі марка можа быць вельмі важным элемэнтам выставы. Неўзабаве ў нашым унівэрсытэцкім музэі адчыніцца выстава марак – як беларускіх, гэтак і замежных, з прыватных калекцыяў студэнтаў. Так што дзесьці праз пару тыдняў можаце прыйсьці і ўбачыць іх".

*(Ракіцкі:)* "Ведаеце, размова з Вамі сяньня ў мяне асабіста нараджае пэўны аптымізм. Усё ж такі магчыма йснаваньне нашае памяці, нашае культуры. Дзякуй Вам за размову!"

*Вячаслаў Ракіцкі, Менск*

# «Новае» ў гісторыі расейскай пошты

**17 лютага з вялікай узрушанасцю карэспандэнты маскоўскага тэлеканала «НТВ» паведамілі аб чарговай праяве пільнасьці мытнікамі бранскай памежнай мытні.**

Бранскія героі-памежнікі сканфіскавалі ў нейкага ўкраінскага калекцыянера паштовыя маркі, якія, па меркаванні карэспандэнтаў «НТВ», дапамогуць раскрыць новае, невядомае ў гісторыі расейскай пошты. Прынамсі, мытныя спецыялісты і нават бранскія калекцыянеры нічога такога яшчэ не бачылі і, відаць, нават не чулі аб гэткім цудзе. Тэлекампанія «НТВ» цэлы дзень «круціла» рэкляму пра гэтае крымінальнае здарэнне.

Вельмі цікава было б даведацца, якія ж рарытэты «вылавілі» бранскія мытнікі.

А вось з таго, што ўбачыў я...

«Гербавыя» маркі. Калі яны штэмеляваныя паштовымі штэмпелямі, то яны маюць каштоўнасьць. А калі не – дык гэта амаль такая ж каштоўнасьць, як і маркі «савецкі чырвоны крыж» ці «ахова помнікаў».

Але найвялікшую цікавасьць у карэспандэнтаў выклікалі цэлыя аркушы наддрукоўвак з выявай генерала Калчака. Цэлыя аркушы! І калі я правільна разгледзеў гэтыя наддрукоўкі, яны зробленыя на сучасных расейскіх, украінскіх ці СССРаўскіх марках. Гэта сапраўды невядомае ў гісторыі пошты. І не толькі расейскай. Не дзіва, што бранскія філятэлісты не бачылі такога. А ў Бранску шмат вельмі пісьменных філятэлістаў. Гэта нагадвае маркі краін кшталту Dufar, Eynhallou, Krim, Irkutsk і Bobrujsk.

Ну, у рэшце рэшт, для тэлеканала «НТВ», які я ўвогуле паважаю, такія рэчы, як знакаміты «тырмандыр», – не навіна. Проста ў большасьці з нас, у тым ліку і ў карэспандэнтаў, яшчэ захавалася «саўковая» звычка займацца справамі, у якіх мы, як кажуць, «некапенгаген».

А наогул, калі кухарка можа кіраваць дзяржавай, чаму, напрыклад, меламан ці проста карэспандэнт не можа рабіць нейкія сур'ёзныя высновы аб каштоўнасьці філятэлістычных ці нумізматычных рэчаў?

А ў наш вясёлы час і сярод калекцыянераў хапае тых, што не адрозьняць Зімбабвэ ад крузэйра. Ці шукаюць штэмпеляваныя маркі абавязкова з клеем і хочуць набыць у сваю калекцыю «Брытанскую Гвіяну» квартблёкам.

Справа ў іншым. Баюся, каб і нашыя родныя мытнікі, каб не выглядаць горай за «старэйшага брата», не ўзяліся таксама шукаць філятэлістычныя скарбы ў нашых альбомах. Тады ўжо ня зьездзіш ні ў Кіеў, ні ў Адэсу, ня кажучы ўжо аб Рызе ці Вільні.

Сумна...

*Дзед Лаўрэн*

**P.S.** Тут да мяне выпадкова трапіла пара марак з наддрукоўкай. Мяркую, што яны таксама належаць да рарытэтных выданнеў. Дасылаю іх у рэдакцыю з надзеяй на дапамогу памяняць гэтую пару хаця б на «Ленінскія блёкі» 1949 г. (ЦФА, №№ 1362, 1363) ці на «Канстанцінаўскі» рубель. Менш каштоўнае прашу не прапанаваць.




# З суседняга кірмашу

**Газэта "Самарская лавка коллекционера", № 2(18) 2000г. усю сваю першую старонку прысьвяціла калекцыйным матэрыялам Рэспублікі Беларусь.**

Пад загалоўкам "Зайчыкі" паскакалі ў гісторыю" рэдакцыя дала паведамленьне аб грашовай дэнамінацыі ў нашай рэспубліцы. Побач паказаны здымкі вонкавых і адваротных бакоў усіх беларускіх "новых" купюраў, пададзена падрабязнае апісаньне іх.



Віктар Гураў са Смаленска піша пра Першую нацыянальную філатэлістычную выставу ў Магілеве (29 лістапада – 5 снежня 1999 года), пра даўнія сяброўскія сувязі філатэлістаў Смаленскага абласнога таварыства з філатэлістамі Беларусі.

А ў канцы старонкі: "Актыўна папаўняецца ў РБ фалерыстычны шэраг узнагароднай сістэмы. Скажам, толькі ў апошні час зьявіліся ўзнагародныя медалі (на здымку): "За працоўныя адзнакі" і ваенныя "За адзнаку ў ахове дзяржаўнай граніцы" і "За адзнаку ў вайсковай службе". Як сказаў знаёмы менскі калекцыянер, з прычыны невялікай колькасьці, сярод калекцыянераў яны цэняцца ад 25 даляраў і вышэй".

Газэта выходзіць як орган "Саюза аматараў расейскай сімволікі". Аказваецца і ў Беларусі ёсьць "аддзяленьне" гэтых "аматараў" і месьціцца яно ў Гарадку і Гарадзеньскай вобласьці. А ў складзе яго "заядлыя краязнаўцы-калекцыянеры Алег Жыгало з сынам-школьнікам, Іван Буйко, Алег Шыдлоўскі, Алег Ігліцкі". Адныя "варагі"!

*Выпісы зрабіў Міхась Верацiла*

# З выяваю Францішка Багушэвіча

Усё мае сваю гісторыю, усё патрабуе свайго асэнсавання. Гэтага асэнсавання патрабуюць і паштоўкі з выяваю Багушэвіча па матывах ягоных твораў. Іх выдадзена не шмат. Усяго шэсць. Першая з іх выйшла ў 1906 годзе. За аснову паштоўкі – іх тады называлі пісулькамі, паштовымі пісулькамі – стваральнікі ўзялі Багушэвічаву фотакартку пачатку дзевяностых гадоў – тую, да якой мы прызвычаіліся: на ёй Багушэвіч у крамным пільчаку, з доўгімі раскідзістымі вусамі, з кароткай стрыжанай барадкай, пры шырокім, у клетчатку гальштуку.

Першая паштоўка, прысвечаная Багушэвічу, мела моўнаграфічнае афармленне. Яно было такое: "Прантишэк Богушэвич. Песняр Беларуски. Налисаў «Дудку Беларускую» пад прозвишчэм Мацея Бурачка і «Смык Беларуски» пад прозвишчам Шымона Рэўкі спад Барысава".

З такой жа выявай і такім жа тэкстам была паралельна выдадзена ў 1906 годзе і паштоўка за лацінскай графікай. Цяпер няцяжка здагадацца, адкуль у беларускі надпіс кірыліцай уварваліся нязвыклыя для беларускага правапісу літары і спалучэнні. І усё ж гэта беларуская паштоўка. Першую паштоўку з Багушэвічаваю выяваю выдала пяцярбургская суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца". У тым за 1906 годзе гэтай суполкай была выдадзена паштоўка і паводле матываў Багушэвічавай творчасці. Называлася яна "Парабкова дворная хата". Змест яе склаў фотаздымкам якойсьці развалюхі: ні то хаты, ні то хлява з Лідскага павета і страфы з верша "Не цурайся", надрукаванай адначасова лацінкаю і кірыліцай:

*А кинь вокам на хату маю:*
*И цячэ и ћние и крывая,*
*И у сярэдзини ћной и стаіць на ћнаю,*
*И дзийлюся я самъ,*
*як трывае.*



Гэтая паштоўка ў свой час вельмі ўразіла Якуба Коласа. Калі ён у 1907 годзе апісаў Мікалаеўскую школу, то, каб малюнак яе паўстаў перад чытачамі ў больш выразнай выяве, Колас скіраваў іх увагу менавіта да гэтай паштоўкі. Вось як ён пра гэта пісаў у "Нашай Ніве": *"Калі каму з вас, саколікі, здарыцца быць у нашых закавулках, то не пашкадуйце патраціць колькі часу і зайдзіце палюбавацца на нашу школу...*

*Ускі раз, як я зірну на гэтую школу, то ўспомню беларускую паштовую адкрытку "Парабкова дваровая хата" і верш М.Бурачка".*

Першыя беларускія паштоўкі, прысвечаныя Ф.Багушэвічу, мелі не толькі практычнае значэнне, паштовае. Яны яшчэ, апрача ўсяго іншага, як і сама літаратура, публіцыстыка, неслі на сабе сацыяльны цяжар, сацыяльную місію. Разам з літаратурай распавядалі свайму народу пра яго самога, пра яго песняроў, варушылі прыспаную думку селяніна, будзілі нацыянальную свядомасць.

Такімі меркаваннямі кіраваліся выдаўцы паштовак у часы Заходняй Беларусі з выяваю Ф.Багушэвіча. З гэтай пары іх да нас дайшло дзве. На адной паўтораны партрэт з вядомай нам фатаграфіі з тэкстам унізе: "Францiш Багушэвiч / 1840-1900/. Пачынальнік навейшай беларускай літаратуры, аўтар бясьсмяротнай "Дудкі Беларускай" і "Смыка Беларускага".

На другой паштоўцы з заходнебеларускіх часоў Багушэвічава выява ўжо змалявана, але ўсё з той жа фатаграфіі; якая была скарыстана і для папярэдніх паштовак. Паштоўка гэтая таксама з тэкстам. Спачатку пад партрэтам подпіс "Францiшак Багушэвiч", а затым – эпіграфам – агністыя словы з "Прадмовы" да "Дудкі беларускай": "...Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі".

Гэтая паштоўка існуе ў двух танавых колерах: адна – светла-карычневая, на глянцавай паперы; другая – на цёмна-карычневай, амаль бурачковай, больш шурпатай. Розняцца яны між сабою яшчэ і афармленнем адваротнага боку. На светла-карычневай паштоўцы з Багушэвічавай выявай на адвароце зверху вялікімі літарамі праз усю картку ў разрадку карычневай фарбай выпісана: "KARTKA POCZTOWA", крыху ніжэй і меншымі літарамі пад словам "kartka", яшчэ два словы: "Adres wysylajacego" і дзве невэлікія лініі з даволі ладным чыстым акенцам. Затым вертыкальнай лініяй ад канца слова "Wysylajacego" адбіта месца чатырма пункцірнымі лініямі. Адваротны бок цёмна-карычневай паштоўкі з Багушэвічавай выявай аздоблены зусім інакш. Папершае, надпіс зроблены па-руску і зусім іншым шрыфтам, іншай фарбай (чырвонай). У правым ражку гэтай паштоўкі ёсць рамачка для маркі з адпаведнымі тлумачальнымі словамі: "мѣсто для марки". Пад надпісам "Почтовая карточка" тлустая чырвоная лінія, а за ёй праз усю паштоўку пункцірныя лініі для пісьма, для тэксту. Гэтая паштоўка выйшла ў выдавецтве Фр.Аляхновіча. Выдавецтва гэтае існавала на пачатку дваццатых гадоў. Вельмі магчыма, што паштоўка з светла-карычневай і цёмна-карычневай – гэта розныя выданні і розных гадоў. Прызначаліся яны, як бачым, для пашырэння не толькі сярод беларускага народа, але польскага і рускага грамадзянства, каб пазнаёміць іх з аблічам беларускага песняра, бацькам беларускага адраджэння і з яго зваротам да беларускага народа.




Маем мы яшчэ адну паштоўку з бяссмяротным Багушэвічавым заклікам: "не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі...". Выяўленчы вобраз гэтай паштоўкі такі... Пасярэдзіне круг. Праз яго левую частку праходзіць дрэўка з бел-чырвона-белым сцягам. Дрэўка вянчае старадаўні беларускі герб, а ўнізе згаданыя словы Францішка Багушэвіча з подпісам "Мацей Бурачок". Надпісы на адвароце аж на шасці мовах: беларускай, летувіскай, нямецкай, французскай, яўрэйскай, польскай. Гэтая паштоўка была выдадзена ковенскім таварыствам імя Скарыны праз клопат Урада БНР. Друкаваў яе на каменю нехта Марголін. На паштоўцы значыцца і месца друку: "Коўна, вул.Гродзенская". Між іншага, на адвароце першай паштоўкі з багушэвічавай выявай надпісы таксама былі зроблены на некалькіх мовах. Прынамсі – на беларускай мове, лацінкай і кірыліцай, летувіскай, польскай і рускай.

У наш час была выдадзена толькі адна паштоўка, прысвечаная Багушэвічу. Аўтарам яе быў Янка Раманоўскі. Год выдання 1963. Была яна маляваная. Гэта адзіная паштоўка, прысвечаная Багушэвічу, што выйшла ў Савецкай Беларусі за ўсе гады існавання БССР.

Паштоўкі з выяваю Ф.Багушэвіча ёсць у некаторых нашых бібліятэках: прыкладам, у Фундаментальнай бібліятэцы імя Якуба Коласа, у аддзеле рэдкай кнігі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі



*(Працяг на 6 стар.)*

АН Летувы, у Літаратурным музеі Янкі Купалы, у Гудзевіцкім школьным музеі, у некаторых прыватных архівах і калекцыях – В.Целеша (г.Рыга), А Мальдзіса. Два арыгіналы паштовак з Багушэвічавай выявай мае і аўтар гэтых нататак. Адна паштоўка захавалася ў варшаўскіх зборах Аляксандра Ельскага. Кожная паштоўка з гэтых калекцый мае сваю гісторыю, сваю долю, свой лёс...

Не гэтак даўно нашы даследчыкі выявілі паштоўку "Вялікія дзеячы Беларускага адраджэння", выдадзеную ў 1948 годзе ў Нямеччыне. Сярод гэтых дзеячоў і Багушэвічава фотавіньетка.

Да сто пяцідзесятай гадавіны з часу народзінаў аўтара "Дудкі Беларускай" невялікім накладам была выпушчана чорна-белая самаробная фотапаштоўка з партрэтам Францішка Багушэвіча, з ягоным аўтографам 1891 года і тэкстам з прадмовы да "Дудкі Беларускай" лацінкаю: "Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займае. А потым і зусім змерлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Пазнаюць жа людзі ці па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носе: ото ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы". Аўтар гэтай паштоўкі Алесь Жынкін.

Набліжаецца Багушэвічаў юбілей. У мяне пытаюцца, якой мне бачыцца з гэтай нагоды паштоўка. Я доўга ламаў галаву. Хацелася, каб гэтая паштоўка была арыгінальная, непаўторная. Але адно хацець, а другое стварыць паштоўку, прыдумаць яе вобраз. Вось гэтага якраз тыя, што хочуць выдаць паштоўку, і не маюць. Тым не менш збіраюцца стварыць такую паштоўку да дня народзінаў Францішка Багушэвіча што безумоўна трэба падтрымаць.

То якой павінна быць Багушэвічава паштоўка?

Найпрасцей узяць Багушэвічаў партрэт, паставіць даты: 1840 – 1900 і якіясь словы аўтара "Дудкі Беларускай" пра мову. Але такія паштоўкі, прысвечаныя Багушэвічу, ужо выдаваліся. Новая паштоўка з нагоды 160-й гадавіны народзінаў Францішка Багушэвіча мне бачыцца такой! На паштоўцы выява радзімы Францішка Багушэвіча – Свіраны. Пажадана сакавіцкай пары. У левым куточку ў авале фота песьняра. Можна паставіць даты жыцця – 1840 – 1900 і словы Францішка Багушэвіча пра мову, пра Беларусь. А якой бачыцца, ўяўляецца юбілейная Багушэвічава паштоўка чытачам "Нашага Слова"?

*Уладзімір Содаль*
*(«Наша слова»)*

# Ганаровыя званні БССР і Рэспублікі Беларусь

**з'яўляюцца формай дзяржаўнай узнагароды, прызнання заслуг і заахвочвання выдатных дзеячоў навукі і працы, мастацтва і культуры, сельскай гаспадаркі і прамысловасці і інш. Устанаўленне і прысваенне ганаровага звання ў Беларусі адносілася да кампітэнцыі Прэзідыума СНК БССР (ВС БССР, ВС Рэспублікі Беларусь), з 1995г. – прэзідэнта Беларусі. Асобам, удастоеным ганаровага звання, уручаецца нагрудны знак. Некаторы час у асобных галінах народнай гаспадаркі існавалі свае ганаровыя званні і знакі да іх. Дадзены каталог – спроба Ю.А.Сцепаненкі сістэматызаваць гэтую форму дзяржаўнай узнагароды і знакаў да яе. Магчыма, тут ёсць недакладнасці, таму я буду ўдзячны кожнаму, хто падкажа іх аўтару ці дасць дадатковыя звесткі.**

| № п/п | Ганаровыя званні БССР і Рэспублікі Беларусь | | Гады існавання узнагарод | Колькасць узнагародж. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Народны | артыст БССР (Беларусі) | 1927- да цяперашняга часу | |
| 2 | | мастак | 1944 - да цяперашняга часу | |
| 3 | | паэт | 1956 - да цяперашняга часу | |
| 4 | | пісьменнік | 1956 - да цяперашняга часу | |
| 5 | Заслужаны | артыст БССР (Рэспублікі Беларусь) | 1928 - да цяперашняга часу | 580 |
| 6 | | дзеяч мастацтваў | 1927 - да цяперашняга часу | 276 |
| 7 | | дзеяч культуры | 1957 – 1971, 1995 -"- | 138 |
| 8 | | работнік культуры | 1971 – 1995 | 540 |
| 9 | | архітэктар | 1968 - да цяперашняга часу | 60 |
| 10 | | будаўнік | 1960 - да цяперашняга часу | 616 |
| 11 | | ветэрынарны урач | 1949 – 1971 | |
| 12 | | заатэхнік | 1949 – 1971 | |
| 13 | | аграном | 1953 – 1971 | |
| 14 | | землеўпарадчык | 1968 – 1971 | |
| 15 | | механізатар сельскай гаспадаркі | 1961 – 1988 | 76 |
| 16 | | інжынер сельскай гаспадаркі | 1978 – 1988 | 13 |
| 17 | | работнік сельскай гаспадаркі | 1971 - да цяперашняга часу | 426 |
| 18 | | лесавод | 1963 - да цяперашняга часу | 90 |
| 19 | | рыбавод | 1979 – 1995 | 1 |
| 20 | | меліяратар | 1963 – 1988 | 73 |
| 21 | | геолаг-разведчык | 1968 – 1995 | 23 |
| 22 | | тэхнолаг | 1985 – 1988 | 1 |
| 23 | | канструктар | 1985 – 1988 | 2 |
| 24 | | машынабудаўнік | 1978 – 1988 | 50 |
| 25 | | рацыяналізатар | 1959 - да цяперашняга часу | 68 |
| 26 | | вынаходнік | 1959 - да цяперашняга часу | 60 |
| 27 | | эканаміст | 1970 - да цяперашняга часу | 179 |
| 28 | | сувязіст | 1965 - да цяперашняга часу | 165 |
| 29 | | энергетык | 1970 – 1988 | 50 |
| 30 | | шафёр | 1968 – 1971 | 74 |
| 31 | | дзеяч навукі і тэхнікі | 1940 – 1988 | 69 |
| 32 | | дзеяч навукі | 1940 - да цяперашняга часу | 40 |
| 33 | | работнік прамысловасці | 1971 - да цяперашняга часу | 628 |
| 34 | | работнік транспорту | 1971 - да цяперашняга часу | 310 |
| 35 | | настаўнік | 1940 – 1988, 1995 – " – | 3200 |
| 36 | | настаўнік ПТА | 1956 – 1971 | 71 |
| 37 | | майстар ПТА | 1956 – 1971 | 83 |
| 38 | | работнік ПТА | 1971 – 1988 | 68 |
| 39 | | настаўнік працоўнай моладзі | 1975 – 1981 | 76 |
| 40 | | работнік народнай адукацыі | 1988 – 1995 | 118 |
| 41 | | работнік адукацыі | 1995 - да цяперашняга часу | 17 |
| 42 | | работнік вышэйшай школы | 1971 – 1988 | 142 |
| 43 | | урач | 1940 – 1979, 1995 –"- | 720 |
| 44 | | правізор | 1978 – 1988 | 23 |
| 45 | | работнік аховы здароўя | 1971- да цяперашняга часу | 242 |
| 46 | | работнік сацыяльнай абароны | 1981 – 1988, 1995 –"- | 26 |
| 47 | | работнік сферы абслугоўвання | 1995 - да цяперашняга часу | 5 |
| 48 | | работнік быт.абслуг. насельніцтва | 1970 – 1995 | 92 |
| 49 | | работнік гандлю і гр.харчавання | 1968 – 1988 | 271 |
| 50 | | работнік жыллёва-кам.гаспадаркі | 1978 – 1986 | 22 |
| 51 | | трэнер | 1995 - да цяперашняга часу | 3 |
| 52 | | майстар спорту | 1995 - да цяперашняга часу | 16 |
| 53 | | дзеяч фізічнай культуры | 1967 – 1995 | 78 |
| 54 | | работнік фізічнай культуры і спорту | 1995 - да цяперашняга часу | 10 |
| 55 | | юрыст | 1966 - да цяперашняга часу | 195 |
| 56 | | работнік органаў унутраных спраў | 1995 - да цяперашняга часу | 12 |
| 57 | | супрацоўнік органаў дзярж. бяспекі | 1995 - да цяперашняга часу | 2 |
| 58 | | спецыяліст узброеных сіл РБ | 1995 - да цяперашняга часу | 14 |
| 59 | | пагранічнік | 1995 - да цяперашняга часу | 2 |

# Ці не страцім «музей на стале»?

**Для філатэліі аднаго азарту мала, трэба таксама любоў да яе.**

Мой субяседнік – чалавек вядомы не толькі ў рэспубліцы, да таго ж ён, рызыкну ўжыць такое параўнанне, мой старэйшы калега, які калісьці на працягу многіх гадоў быў вядучым філатэлістычнай рубрыкі ў "Чырвонай змене". Таму да журналісцкай працы ставіцца з разуменнем, і на інтэрв'ю згадзіўся адразу. Сам ён пра маркі склаў столькі твораў, у тым ліку некалькі кніжак, што не толькі за ўласную калекцыю, але ж і за літаратуру адпаведную на розных выстаўках атрымаў ужо амаль дзевяноста медалёў.

Да таго ж Леў Коласаў сёння адзіны ва ўсёй СНД замежны член Польскай акадэміі філатэлістыкі. Званне гэтае не толькі ганаровае, яно сведчыць, якую ўвагу нашы заходнія суседзі надаюць захапленню маркамі.

А галоўнае, Леў Леанідавіч – намеснік старшыні Беларускага саюза філатэлістаў (БСФ), хаця працуе вядучым інжынерам у адным з мінскіх навукова-даследчых інстытутаў. І асноўнай тэмай нашай гутаркі былі менавіта праблемы грамадскага аб'яднання БСФ. Але ж размова пачалася крыху нечакана:

– Каб ведалі і вы, і чытачы: на Захадзе наогул сярод інтэлігенцыі вельмі многа філатэлістаў. Ёсць пэўныя традыцыі і ў Расіі. Маркі збіралі Мікалай II, Чэхаў, Фрунзе...

– А з чаго пачалося ваша захапленне?

– Маркамі захапляўся яшчэ мой дзед. Прыблізна з 1928-29 года пачаў збіраць іх і мой бацька. Так што гэта дынастыйнае.

Мы жылі ў акупаваным Лунінцы, і ў той час маркі нам вельмі спатрэбіліся: мы абменьвалі іх на прадукты харчавання, да нас у хату заходзілі і афіцэры, і салдаты, якія цікавіліся маркамі. Трэба адзначыць, што сілай ніхто нічога не забіраў.

Адразу ж пасля вайны было не да марак. Але прыблізна з года 1946 пачаў калекцыянаваць ужо і я, амаль што трынаццацігадовым хлапчуком. У 1957 годзе, пераехаўшы ў Мінск, адразу пайшоў у гарадскі клуб філатэлістаў.

Займацца калекцыянаваннем было складана, бо марак друкавалася ў Саюзе вельмі мала, а замежных амаль зусім не было. Штуршок філатэліі, як ні дзіўна, даў Маскоўскі міжнародны фестываль моладзі і студэнтаў у канцы 50-х. Гэты форум суправаджаўся выстаўкамі паштовай маркі, бо сярод замежных дэлегатаў былі філатэлісты, і шмат. І ўсе яны хапелі купіць хаця б



нешта для сваіх калекцый і шукалі тавар па крамах, нават пыталіся ў перакладчыкаў: маўляў, а дзе тут можна набыць маркі?

Урэшце ўзнікла арганізацыя філатэлістаў, і ў Беларусі яна называлася так – Беларускае рэспубліканскае аддзяленне Усесаюзнага таварыства філатэлістаў (БРАУТФ).

– Ва ўсіх знаёмых калекцыянераў пытаюся: чаго больш у іх сэрцы – любові да пэўных рэчаў ці азарту? Кожны адказвае па-рознаму. А які ваш погляд? І наогул, што за хобі такое дзіўнае: збіраць кавалачкі паперы?

– Мяркую так, што без азарту не будзе любові. Бо сапраўдны калекцыянер заўсёды хоча быць першым, незалежна ад таго, што ён збірае. Ён хоча мець тое, чаго ў яго пакуль няма. А яшчэ лепш – чаго няма больш ні ў кога іншага.

Гэта тычыцца і філатэлістаў. Кожная калекцыя – гэта збор нейкіх твораў. Вось уявіце сабе: ёсць у вас любімы пісьменнік, і вы ведаеце, што існуе яго поўны збор твораў, скажам, у пятнаццаці тамах, а ў вас толькі дванаццаць. Што рабіць? Дык вы ж не супакоіцеся, пакуль не знойдзеце, не купіце астатнія тамы!

Наконт хобі... Філатэлія – прабачце, гэта зусім не кавалачкі паперы. Гэта і палітыка, і культура. Бадай, нават карцінную галерэю можна мець дома, на стале, таму што выдаваліся маркі з творамі ўсіх знакамітых мастакоў.

Я, напрыклад, у школе выдатна ведаў дзякуючы менавіта маркам гісторыю і геаграфію. Падручнікі для гэтага мне не былі патрэбны. Аднак ладам: філатэлія ў чыстым выглядзе – гэта толькі маркі. А вось я збіраю таксама старыя беларускія лісты, ёсць у маёй калекцыі экзэмпляры часоў Льва Сапегі... Каб такое збіраць, аднаго азарту мала, яго не можа быць без пэўнай любові.

– І праз гэтую любоў людзі гатовы плаціць за маркі часта вялікія грошы. Ці многа сёння такіх людзей?

– У наш час філатэлія – задавальненне вельмі дарагое. Дый дзеці зараз збіраюць часцей наклейкі ад жавальнай гумкі... А калісьці, дакладней, у сярэдзіне 80-х, толькі юных філатэлістаў у Беларусі было каля 12 тысяч, у тым ліку 7 тысяч – у Мінску. У кожнай школе існаваў свой гурток! А дарослых калекцыянераў было, калі не памыляюся, 30 тысяч. Аддзяленні таварыства філатэлістаў былі ў кожнай вобласці і ў 75 працэнтах раёнаў рэспублікі.

– Усяго за 74 гады Савецкай улады было выпушчана крыху больш як шэсць з паловай тысяч найменняў марак і блокаў, у сярэднім па 88 найменняў у год. А колькі налічвае ваша калекцыя? У ёй жа не толькі айчынныя маркі?

– Прабачце зноў, але ж калекцыянерам такіх пытанняў не задаюць. Справа ж не ў колькасці экзэмпляраў.

У кожнага філатэліста ёсць свой прынцып, што збіраць. Мяне цікавілі маркі СССР (потым Расіі) і грамадзянскай вайны, маркі Польшчы і Германіі. Чаму менавіта яны? Па-першае, у Польшчы я нарадзіўся, дарэчы, мовай валодаю і пішу на ёй. Па-другое, я быў малалетнім вязнем у Шмалькальдэне, што ў Цюрынгіі, і аднойчы вырашыў для сябе, што "павінен ведаць свайго ворага". Вось такі ў мяне "музей на стале".

– Калекцыянаванне наогул прадугледжвае людскія адносіны... У чым раней выяўлялася дзейнасць вашай арганізацыі?

– З развалам Савецкага Саюза беларускае аддзяленне таварыства амаль спыніла сваю дзейнасць. Ужо аднавілася работа філатэлістаў у Літве і Арменіі, а вось мы таўчэмся на месцы...

Я казаў, што гурткі калекцыянераў былі нават у кожнай школе. І дарослыя абавязкова раз-другі на тыдзень выступалі перад вучнямі. Але ж зносіны – можа, гэта і не галоўнае.

– Дзе ж цяпер збіраюцца тыя, хто захаваў вернасць свайму хобі?

– Па серадах у фае Палаца культуры Мінскага трактарнага завода, пачынаючы з 14 гадзін. Там, праўда, бяруць пэўную плату за ўваход, аднак сімвалічную.

– У мінулыя гады Масква забяспечвала маркамі ўсе рэспублікі Савецкага Саюза. Ці праводзіцца зараз падпіска на маркі, запланаваныя да друку. Як гэта адбывалася раней?

– Сапраўды, спачатку нам дасылалі каталог на будучы год, і калекцыянеры марак рабілі свае заказы. Падпісацца можна і цяпер, дый сувязі паміж сабой філатэлісты розных рэспублік падтрымліваюць.

– Я ведаю, што вам прапанавалі быць кіраўніком БСФ. Чаму вы адмовіліся ад гэтай пасады і застаяцеся намеснікам старшыні – на грамадскіх асновах? У вас жа такі вопыт!

– У апошні час я збіраю толькі беларускія маркі. Што мяне яшчэ вельмі цікавіць, дык гэта старыя лісты. Па іх таксама можна вывучаць айчынную гісторыю і асабліва гісторыю нашай пошты – нават па паштовых штэмпелях.

А яшчэ года паўтара таму ў саюза адабралі памяшканне. Загінула ўсё, што было там: і бібліятэка, і дакументы, і некаторыя калекцыі... Хто нам дапаможа ў набыцці – не плошчы, а страчанага? Я ўжо немалады чалавек, каб барацьбой займацца.

– У 1992 годзе ў Беларусі выпушчана 30 марак і блокаў, прыблізна такая ж колькасць друкавалася ў перыяд з 1993 па 1995 гады, а вось у 1996 – ужо 98 марак. Бышцам, ёсць выхад на пазіцыі мінулых гадоў. Вы верыце ў перспектывы беларускай філатэліі?

– Тут ёсць і асабісты момант, і грамадскі.

Мне крыўдна, што мой сын не пайшоў па маіх слядах. Маркі яго зусім не цікавяць. Няма каму пакінуць калекцыю.

Але ж мне яшчэ больш крыўдна, што адзін наш дзеяч ад мастацтва з тэлевізійнага экрана на ўсю краіну сказаў, што да творчага аб'яднання, якое ён узначальвае, хочуць далучыцца "нейкія філатэлісты-спекулянты".

Якія ж філатэлісты спекулянты?! Людзі, можна сказаць, усё жыццё працавалі дзеля калекцыі, а зараз многія з іх вымушаны гандляваць маркамі праз адпаведныя крамы, каб толькі неяк выжыць...

Традыцыя ж філатэліі – гэта абмен маркамі сярод іх аматараў і знаўцаў, а зусім не камерцыйная зацікаўленнасць.

Асабіста я не веру, што любыя публікацыі вартыя паўплываць на сітуацыю. Да таго ж сёння сродкі масавай інфармацыі не вельмі ахвотна друкуюць матэрыялы пра філатэлістаў. Мне прыемна, што "Чырвонка" пра нас не забылася. Калі зараз набярэцца ў рэспубліцы тысяч пяць калекцыянераў марак – гэта добра...

У хуткія добрыя перамены не веру, аднак на нейкую перспектыву ўсё ж спадзяюся.

*Гутарыў Алег Барадач*
*Фота Мікалая Лявонава*
*(«Чырвоная Змена»)*

# Да беларускіх калекцыянераў

**Шаноўныя беларускія калекцыянеры, аматары вайсковай гісторыі!**

У лістападзе 1989 г. пры Цэнтральнай сядзібе ТБМ была ўтворана вайскова-геральдычная падкамісія. Асяродак не прэтэндуе на нейкі манапалізм і выключнасць, але мае сур'ёзны намер здзейсніць пэўныя крокі ў дадзеным кірунку. У прыватнасці, мяркуецца весці збор, аналіз і папулярызацыю інфармацыі і матэрыялаў па ўсім спектры спецыяльных вайскова-гістарычных дысцыплін: геральдыцы, фалерыстыцы, вексілалогіі, сфрагістыцы ды інш. Не застанецца па-за ўвагаю і адмысловая беларуская тэрміналогія. Храналагічныя межы дзейнасці падкамісіі практычна не абмежаваныя. Плануецца правядзенне выстаў, лекцыяў, удзел у навуковых канферэнцыях, публікацыя найбольш цікавых матэрыялаў, у тым ліку і на старонках "Нашага слова".

Мы чакаем ад Вас на адрас Менскай сядзібы ТБМ лістоў з прапановамі, планамі, парадамі, інфармацыяй і матэрыяламі. Ужо даўно наспела неабходнасць у злучэнні намаганняў усіх рупліўцаў гісторыі нашага ваярства, адраджэння ранейшай славы і традыцыяў Беларускага Войска. Далучайцеся да вайскова-гістарычнай дзейнасці ТБМ!

*В.Астрога*

*Адрас сядзібы:*
***220005, г.Менск, вул.Румянцава, 13 Вайскова-геральдычная падкамісія***

# Беларускія цэшкі

рэканструкцыя В.Астрогі, мастак В. Лазар



1



2



3



4



5

**1, 2** – цэшкі Беларускай Вайсковай Камісіі Менскага перыяду 1919 г.; **3** – цэшка БВК, але Лодзінскага перыяду. 1920г. Усе яны мэталёвыя – срэбныя, № 3 з эмаллю чырвонага колеру; **4** – цэшка Беларускай Краёвай Абароны 1944–45г. г.: белая, вершнік на чырвоным тле. Існавалі мэталёвыя і выразаныя з палатна (маляваныя). **5** – Праект У.Шнэка, маёра, начальніка Краёвага Штабу Беларускага Вызвольнага Фронту ў Аўстраліі 1984 г. Поле цэшку ў залежнасці ад роду зброі: – пяхота – чырвонае , танкісты – чорнае, супрацьпаветраная – сіняе і г.д. Каласы: ад сцяжнага да капітана – срэбныя, ад маёра да палкоўніка – залатыя.





⇖ **МІЛІЦЫЯ** – маленькая для пілоткі (ва унутраных войсках жаўнеры), з дубовымі галінкамі для фуражкі і аблавухі. Для генералаў – залатая, для астатніх – срэбная. Існавала ў той жа час 1992 – 95 г. г. Ёсць падобная цэшка залатая, але з накладзенаю белаю «пагоняю» – мытня.

**ВАЙСКОВЫЯ** – існавалі двух штампаў шырокія на фуражку, вузейшыя на пілотку. Вузейшыя таксама лічацца жаўнерскімі. Былі двух колераў – залатыя (генералы), срэбныя – астатнія. Існавалі ў 1993 – 95 г. г. ⇗





**ПРАКУРАТУРА** – цэшка ў круглай разэтцы – пракуратура. Цэшка галоўных пракурораў раёна – з дубовымі лістамі. Усяго выраблена круглых – 50 шт. ⇨

**РЫБААХОВА** ⇙

першая – расейская, другая – украінская, трэцяя – беларуская і г.д.

Бсзумоўна, гэта не памылка, гэта цэлы перыяд "беларускамоўных надпісаў" на расейскіх манэтах. Мяркуйце самі.

## ПРЫКЛАД ДРУГІ – ЗАЛАТЫ

Рэгулярную чаканку расейскай залатой манэты цар Пётр пачаў у 1701 годзе. Былі гэта чырвонцы й падвойныя чырвонцы. З 1718 па 1728 год штогоду (за выключэньнем 1719-га)чаканяцца яшчэ й залатыя "ДВА РУБЛИ". А, здаецца, з 1721 па 1728 год ўвогуле зь беларускім надпісам: "ДВА РУБЛІ 1727". Гэта ўсё манэты са сьвятым Андрэем на рэверсе.

А вось яшчэ адна цікавая зьява расейскай нумізматыкі – за-



латыя манэты дробных наміналаў толькі для "дварцовага" ужытку. Гэта манэты: два рублі, рубель, палціна. Нас, натуральна, цікавяць толькі "ДВА РУБЛИ". Эмісія ахоплівае перыяд царараваньня Лізаветы Пятроўны й Кацярыны Другой: 1756, 1758, 1766 і 1785 годы. На ўсіх стаіць "беларускі" надпіс "два рубли".

Беларускамоўны перыяд у расейскай нумізматыцы скончыўся на 1785 годзе, бо чаканеныя ў 1869-1885 гадах трохрублёвыя манэты маюць на сабе ўжо "выпраўлены" надпіс "3 РУБЛЯ".

## ПРЫКЛАД ТРЭЦІ – СЯРЭБРАНЫ

Сярэбраныя манэты ў два рублі – вельмі рэдкая зьява ў расійскай нумізматыцы – больш рэдкая, чым два талеры ў эўрапейскай. Дзьве першыя лічацца спробнымі: гэта – цара Пятра Першага 1722 зь легендай "МОНЕТА НОВАЯ ЦЕНА ДВА РУБЛИ" і Кацярыны Першай – "МОНЕТА НОВАЯ ДВА РУБЛИ" 1726 г.



Надзейны расейскі нумізмат Васіль Узьдзенікаў дае такі каментар да гэтых цікавых манэт:

"До настоящего времени не установлено, действительно ли чеканились пробные серебряные двухрублёвики в царствование Петра I, так как подлинные экземпляры такой монеты и какие-либо сведения о ней не обнаружены, а все её новодельные экземпляры отчеканены не подлинными, а заново изготовленным штемпелями."

І далей – да двухрублёвіка Кацярыны Першай:

"Новодел отчеканенный подлинными штемпелями не дошедшей до нас пробной монеты. Согласно имеющимся документам, пробный серебряный двухрублёвик был отчеканен в 1726 г. в основном с целью проверки допустимости снижения пробы сплава серебряных монет крупных номиналов; не исключено также, что одновременно рассматривалась возможность повышения монетной стопы таких монет. Эти мероприятия реализованы не были."

А мне здаецца, што калі двухрублёвік Кацярыны Першай 1726 года прызнаны сапраўдным, то, абапіраючыся толькі на "беларускі" надпіс можна зь вялікай доляй верагоднасьці прызнаць таксама сапраўдным і новы штэмпель, які зьяўляецца копіяй са зьнішчанага, альбо трэснутага старога сапраўднага штэмпеля. А калі гэта й фальшыўка, – дык фальшыўка таленавітая (не ў прыклад Майнэрту!).

Ужо чую рэплікі: "Сканцэтраваў увагу на адной памылцы й робіць з мухі слана." Прабачце, шаноўныя! Вось вам іншы беларусізм.

## "МАНЭТА"

Так-так, замест рускага "монета" – беларускамоўнае "манэта". І не на адной, а на сарака адменах расійскіх манэт. Вось іх пералік.

На трох варыянтах сярэбранага рубля 1704 года (год пазначаны кірыліцай). На рублe 1710 года.

На двух варыянтах палціны 1699 г. (года кірыліцай), на васьмі варыянтах 1701 г. (год кірыліцай), на чатырох варыянтах 1701 г. (год кірыліцай), на двух варыянтах 1703 г. (год кірыліцай), на палціне 1704 г. (год кірыліцай), на пяці варянтах 1705 г. (год кірыліцай), на палціне 1706 г. (год кірыліцай), на трох варыянтах 1710 г.

На сямі варыянтах "полуполтинника" 1701 г. (год кірыліцай), на двух варыянтах 1713 года.

Гэта былі прыклады расейскай беларускасьці з нумізматыкай. А вось яшчэ адзін цікавы прыклад з фалерыстыкі.

## "ПЕТРУСЬ"

У траўні 1[illegible]17 года разьведка паведаміла цару Пятру аб выхадзе ў мора з порта Пілаў шведзкіх ваенных караблёў. На перахоп іх была накіраваная эскадра Сенявіна. Ён дагнаў шведаў каля выспаў Эзэлем і Готлянд і ўступіў з імі ў бой. Расейцы атрымалі перамогу й захапілі тры шведзкія караблі: лінейны "Вахмейстар" (52 гарматы), фрэгат "Карлскронваген" (35 гармат) і брыгантыну "Брэнгардус" (12 гармат).

У гонар гэтай перамогі быў адчаканены наградны мэдаль, вядомы ў пяці варыянтах з золата й срэбра.

Залатыя (рознай велічыні) для афіцэраў у залежнасьці ад рангу. Сярэбраныя дыяметрам 44 мм – для унтэр-афіцэраў, дыяметрам 41 мм і 32 мм – для матросаў і жаўнераў. Мэдалі з вушкамі й насіліся на Андрэеўскай (блакітнай) стужцы.

На рэверсе марская баталія, над якой паўкругам надпіс: "ПРИЛЪЖАНИЕ И ВЪРНОСТЬ ПРЕВОСХОДИТЪ СИЛНО". Знізу, пад абрэзам малюнка: "МАИЯ 24 ЧИСЛ. 1917"

Але самае цікавае ў гэтага мэдаля – аверс. На аверсе: партрэт Пятра Першага ўправа ў рыцарскіх дасьпехах і ў лаўровым вянку. Вакол надпіс: "ПЕТРУСЬ ПЕРВЫЙ БОЖІЕЮ МІЛОСТІЮ ІМПЕРАТОРЪ РОСИСКИІ." Параўнайце: "ПЕТРУСЬ ПЕРВЫЙ" – "ПЕТРУСЬ БРОВКА" (Пятрусь Броўка)!

Я ўжо не кажу пра манэты:



"МОСКОВСКІ РУБЛЬ 1712", пра два варыянты з такім жа надпісам – 1714 года, і наогул з "папуаскім" надпісам "МОСКОВСКІ ПОЛТИНА" 1710 года.

Дык чаму расейцы спачатку так любілі "грубый белорусский язык" (з 1699 па 1785 гады), а потым перасталі любіць яго? Можа ў гэтым вінаваты мы самыя?

*Міхась Верацiла*

# АС ШУ-БУ МУ-ЛІ АТ ПЕ-ПІ-СУ... ШО?

Яшчэ ў 70-я гады я неяк атрымаў ліст-просьбу з горада Адзесы (менавіта так і толькі так тубыльцы называют свой горад). Адзесіт прасіў мяне дасылаць яму выразкі зь беларускіх газэт і часопісаў з малюнкамі, тэкстамі і адказамі на красворды. Я ніколі сур'ёзна не цікавіўся і не займаўся гэтай справай і быў крыху зьдзіўлены такім хобі. Аказалася, што чалавек сам складаў крыжаванкі і дасылаў іх у прэсу, зарабляючы сякія-такія грошы, якія траціў потым на філатэлію.

Сёньня чамусьці мне прыйшло ў галаву прапанаваць такім аматарам крыжаванак (для звязкі слоў) самыя кароткія назвы грашовых знакаў, якія я ведаю. Вось яны ў алфавітным парадку.

*БАН, БАТ, БАЦ, БІТ, БОН, БОС, БЭР, ВІТ, ВОН, ДАТ, ДОГ, ДУБ, КАК, КАС, КАШ, КІП, КСУ, ЛАТ, ЛЕЙ, ЛЕК, ЛЕЎ, ЛІТ, МАТ, МІТ, МОН, МУН, ОРТ, ПАЯ, ПІА, ПУЛ, РУС, РЫН, РЫО, САР, СІК, СОЎ, СЭН, ТАО, ФЕІ, ФІЛ, ФУН, ХАО, ЦЕН, ЧОН, ЧЭК, ЧЭХ, ШАГ, ЭКЮ.*

Дарэчы, словы: *БЭР, БОН, ДОГ, ДУБ, ЛЕЎ, МАТ, ЧЭК, ЧЭХ, ШАГ* маюць і другое значэнне, не нумізматычнае, як і словы: *ДЗІЗАЙН, ГАЗЭТА* – нумізматычнае.

Надышла чарга расшыфраваць і загаловак. Гэта таксама назвы грошай, толькі яшчэ карацейшыя (з двух літар).

А назваў грошай з адной літары я не ведаю.

*Міхась Верацiла*

# Матэрыялы да каталогу «Латарэі Беларусі»

Энцыклапедыя сцьвярджае, што слова **ЛАТАРЭЯ** утварана ад італьянскага lotteria, якое, у сваю чаргу, паходзіць ад французскага lot – жэрабя і азначае розыгрыш рэчаў ці грашовых сум па квітках (білетах). Найбольш пашыраныя віды латарэі – гэта простая, спартыўная і лікавая. Разнавіднасьць простай латарэі – латарэя-алегры (розыгрыш адразу пасьля куплі квітка) і грашова-рэчавая латарэя.

**ЛАТАРЭЙНЫ КВІТОК** (білет, картка, кніжка, марка) – спецыяльны папяровы знак, своеасаблівая (часта мастацкі аформленая) квітанцыя, якая зьяўляецца пацьвярджэньнем грашовай аплаты за права удзельнічаць у розыгрышы латарэі, а пры ўдачы, - дае права на атрыманьне выйгрышу. А ў асяродзьдзі калекцыянераў-балістаў – зьяўляецца прадметам зьбіраньня і дасьледваньня як і грашовыя знакі, каштоўныя паперы (боны).

Па характару **ЭМІТЭНТА** (асобы, арганізацыі, якая выпусьціла латарэйныя квіткі) латарэі падзяляюцца на : прыватныя, дзяржаўныя, добраахвотных таварыстваў, фірмаў, грамадскіх арганізацый.

Намі робіцца першая спроба стварыць каталог латарэйных квіткоў Беларусі і для Беларусі ўсіх вядомых эмітэнтаў.

Пачынаць, безумоўна, трэба з самага распаўсюджанага – квіткоў дзяржаўных латарэй.

Сярод (на сёння вядомых) дзяржаў-эмітэнтаў былі: імператарская Расія, РСФСР, СССР, Польшча, Германія. У такой пасьлядоўнасьці і у храналагічным парадку, відаць, і трэба пачынаць дасьледваньне гэтай тэмы.

## РАСІЯ (імперыя з 1721 па 1917г.)

**1914 год. "Высочайше разрѣшенная Благотворительная лотерея 1914 года".** (На карысьць параненых і хворых жаўнераў, сямей асоб, прызваных на вайну, і асоб, якія пацярпелі ад ваенных бедстваў).

Кошт латарэйнага квітка – 5 рублёў.

Квіток падзелены на 5 частак па 1 рублю.

Памеры квітка: 350x100 мм, часткі квітка: 70x100 мм.

Папера: тонкая жаўтавая з вадзянымі знакамі №1.

Колер фона: зялёны, тэксту – чорны, нумароў – чорны.

Беларускія тэксты на квітку адсутнічаюць.

Дадатковую інфармацыю можна знайсьці ў выданні "Правительственный Вѣстникъ" (Петроград) 1914г.

№ Цэлы квіток – 5 рублёў (малюнак №1)
№ Частка 1 – 1 рубель (малюнак №2)
№ Частка 2 – 1 рубель (малюнак №2)
№ Частка 3 – 1 рубель (малюнак №2)
№ Частка 4 – 1 рубель (малюнак №2)
№ Частка 5 – 1 рубель (малюнак №2)

**1914 год. "Высочайше разрѣшенная Благотворительная лотерея 1914 года ..." – выпуск другі.**

Усё, як у выпуску першым, толькі: колер фону – чырвоны.

№ Цэлы квіток – 5 рублёў (малюнак №3)
№ Частка 1 – 1 рубель (малюнак №4)
№ Частка 2 – 1 рубель (малюнак №4)
№ Частка 3 – 1 рубель (малюнак №4)
№ Частка 4 – 1 рубель (малюнак №4)
№ Частка 5 – 1 рубель (малюнак №4)

*Міхась Верацiла*







МАЛЮНАК № 2

МАЛЮНАК № 4




МАЛЮНАК № 1

МАЛЮНАК № 3



# Матэрыялы да каталогу «Латарэі Беларусі»

*(працяг)*

**Перыяд акупацыі Беларусі германскай імперыяй (1915 – 1918 г.г.)**

Падчас Першай Сусветнай вайны амаль уся тэрыторыя Беларусі была акупавана Германскай імперыяй. Для насельніцтва былі выпушчаны беларуска-нямецкія пашпарты, былі ўведзены ў абарачэньне (у дадатак да «царскіх») новыя, акупацыйныя грошы. Гэта жалезныя манэты ў 1, 2 і 3 капейкі 1916г., а таксама папяровыя 20 і 50 капеек 1, 3, 10, 25 і 100 рублёў з датай 17 красавіка 1916 г., г.Пазнань. Пазней у г. Коўна (Каўнас) 4 красавіка 1918 г. была выпушчана новая серыя акупацыйных грошай (у марках): ?, 1, 5, 20, 50, 100 і 1000 марак. Але латарэйных квіткоў гэтага перыяду я не сустракаў.

Калі ў калекцыях беларускіх баністаў такія квіткі йснуюць, я вельмі прашу паведаміць аб гэтым у рэдакцыю «Б.К.» для ўключэньня іх у наш каталог беларускай латарэі.

**Перыяд утварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) (лістапад 1917г. – сакавік 1921г.)**

Кульмінацыйным момантам у барацьбе за дзяржаўнасць Беларусі стаў першы Ўсебеларускі кангрэс (з'езд) у Менску ў снежні 1917 г., арганізаваны пры вядучай ролі Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ). У яго працы ўдзельнічалі 1872 дэлегаты з усіх гэгіёнаў Беларусі, яны прадстаўлялі сялян, рабочых, вайскоўцаў, бежанцаў, інтэлігенцыю. Кангрэс паспеў прыняць толькі першы праект пастановы пра самавызначэнне Беларусі ў складзе Расейскай Федэрацыі і часовай краёвай уладзе ў асобе ўсебеларускага савета сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў. У час прынядця гэтага лёсаноснага для нашы рашэння – у ноч з 17 на 18 снежня 1917 г. – з'езд быў разагнаны кіраўнікамі мясцовай бальшавіцкай улады пры дапамозе вайсковай сілы.

Але абраная Рада была пераўтворана ў парламент – Раду Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), Выканаўчы камітэт стаў урадам БНР пад назвай Народны сакратарыят. 25 сакавіка 1918 г. Рада БНР выдала 3-ю ўстаўную грамату, Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай дзяржавай.

Дата абвяшчэння БНР стала гістарычнай для нашага народа і штогод адзначаецца ўсімі свядомымі беларусамі як найвялікшае свята. Залатымі літарамі павінны быць унесены ў гісторыю Беларусі імёны дзеячаў БНР, чыя дзейнасць падрыхтавала з'яўленне Акта 25 сакавіка:

Перамога бальшавікоў не магла зліквідаваць уплыў БНР на далейшае развіццё Беларусі. Новыя ўлады вымушаны былі лічыцца з беларускім нацыянальным рухам, асабліва з той яго часткай, якая падтрымала савецкую ўладу з надзеяй на ажыццяўленне ідэалаў беларус-



Всего выпущено 3.000.000 билетов по 500.000 рублей.

| | | |
|---|---|---|
| 1 выигрыш в | 30.000.000.000 | руб. |
| 1 „ „ | 10.000.000.000 | „ |
| 1 „ „ | 5.000.000.000 | „ |
| 3 выигрыша по | 1.000.000.000 | „ |
| 6 выигрышей „ | 500.000.000 | „ |
| 30 „ „ | 200.000.000 | „ |
| 30 „ „ | 100.000.000 | „ |
| 60 „ „ | 50.000.000 | „ |
| 300 „ „ | 20.000.000 | „ |
| 600 „ „ | 15.000.000 | „ |

Всего 1032 выигрыша на сумму 78.000.000.000 руб.

ЦКПомгол при ВЦИК.

Весь сбор поступает в пользу голодающих.

Выигрыши будут выплачены НАЛИЧНЫМИ денежными знаками в Отделениях Государственного Банка или в кассах Финотделов по предъявлении билета.

Тираж не позже 1-го Октября 1922 г.

О дне тиража будет об'явлено особо.



ВЫИГРЫШНЫЙ БИЛЕТ,

цена ПЯТЬСОТ ТЫСЯЧ рублей

СЛАВНЫЙ ВЫИГРЫШ

ТРИДЦАТЬ МИЛЛИАРДОВ РУБЛЕЙ

Председатель ЦКПомгол

1922

№2294513

Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Варонка, Алесь Бурбіс, Аркадзь Смоліч, Кастусь Езавітаў і многія іншыя. Раду БНР у розныя часы ўзначальвалі Іван Серада, Пётр Крэчэўскі, Васіль Захарка, Мікола Абрамчык, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Язэп Сажыч. Зараз старшынёй Рады БНР з'яўляецца Івонка Сурвіла, якая жыве ў Канадзе.

Замацаваць беларускую незалежнасць у той час не ўдалося. З усходу на Беларусь наступала Чырвоная армія, з Захаду – польскія войскі. Большая частка беларусі аказалася захопленаяй расейскімі бальшавікамі. Рада БНР мусіла была выехаць з Менска ў Гародню, а потым у эміграцыю – спачатку ў Літву, а далей з 1923 па 1943 г. яна знаходзілася ў Празе, пасля ў Парыжы, ЗША, Канадзе. Увесь гэты час Рада БНР у замежжы перахоўвала ідэю *незалежнасці Беларусі.*

Ліквідацыя БНР бальшавікамі выклікала супраціўленне з боку беларускага народа. У абарону восенню 1920 г. выступілі Слуцкія паўстанцы, змаганне якіх стала гераічнай старонкай гісторыі Беларусі. Імёны іх таксама нельга забываць – Уладзімір Пракулевіч, Ахрэм Гаўрыловіч, Павел Жаўрыд, Антон Сокал-Кутылоўскі, Юрка Лістапад.

кага нацыянальнага Адраджэння. Менавіта ў выніку намаганняў беларускіх дзеячаў Аляксандра Чарвякова, Зміцера Жылуновіча, Уевалада Ігнатоўскага і іншых 1 студзеня 1919 г. у Смаленску была абвешчана Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусь,. у далейшым яна стала Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай (БССР). У 1922 г. БССР выступіла адным зузаснавальнікаў СССР. Рэспубліка ўключала этнічныя беларускія землі, але ў далейшым не па сваёй волі страціла шмат сваіх тэрыторый.

Нашу Бацькаўшчыну дзялілі ў сакавіку 1918 г. пры падпісанні Берасцейскай дамовы паміж Расіяй і Германіяй, дзялілі ў 1920 г. пры падпісанні дамоваў Расіі з Літвою і Латвіяй. Сапраўднай драмай для беларускага народа сталі вынікі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. паміж Расеяй і Польшчай, у выніку якога Заходняя Беларусь была перададзена Польшчы. Аднавіць цэласнасць краіны ўдалося часткова ў верасні 1939 г., калі Заходняя Беларусь зноў *была далучана да* СССР.

Усё, што адбылося на Беларусі пасля 25 сакавіка 1918 г. цяжка пераацаніць. Дзень волі! Дзень Незалежнасці!

Не было б Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), не зьявілася б неабходнасць утварэньня БССР. Утварэньне БССР паспрыяла і аблегчыла пераход да Незалежнай Рэспублікі Беларусь канца XX стагодзьдзя. Хоць цярністы шлях Беларусі да Дня Волі (сапраўднай волі) яшчэ не скончыўся, але ўжо многія зразумелі, што ён незваротны, несупынны – лесавызначальны!

У сакавіку 1921 г. змовай акупантаў наша Бацькаўшчына йзноў была падзелена на два кавалкі: большы, усходні захапіла Савецкая Расея; меньшы, заходні – Польшча Пілсудскага.

Урад БНР не паспеў выпусьціць свае нацыянальныя грошы, свае латарэйныя квіткі, свае аблігацыі і многа чаго яшчэ. Існуюць толькі беларускія пашпарты, беларускія паштовыя маркі і паштовыя карткі, маркі Слуцкага Збройнага Чыну.

Беларусь працягвала карыстацца грашовымі знакамі і іншымі атрыбутамі ўлады краін-акупантаў. Але трэба адзначыць, што Савецкая Расея на сваіх грашовых знаках, латарэйных квітках і аблігацыях зьмяшчала й беларускія надпісы, у той час як Польшча вынішчала ўсялякае ўпамінаньне беларусчыны ва ўсём.

**Перыяд акупацыі Беларусі Савецкай Расеяй (Усходняя Беларусь) (сакавік 1921г. – верасень 1939г.)**

Летам 1921 г. у Савецкай Расеі здарылася засуха, якая выклікала голад. Адным з мерапрыемстваў па ліквідацыі голада была й першая савецкая латарэя, якая планавала сабраць 150 мільёнаў раблёў узору 1922 г.

**1922г. «ЦК Помгол при ВЦИК. В помощь голодающим.»**

«На карысьць галадаючых. Латарэя Цэнтральнага Камітэту Помачы галадаючым пры Ўсерасійскім Цэнтральным Выканаўчым Камітэце.»

Цана латарэйнага квітка: 500000 рублёў (50 рублёў узору 1922г.)

Памеры квітка: 158 x 83 мм.

Папера: белая, тонкая, вадзяны знак № 2.

Колер фона: блакітны; колер тэксту – чорны.

Беларускія тэксты на квітку адсутнічаюць.

Асаблівасьці выпуску: Гэта наогул першая латарэя Савецкага часу; першая дзяржаўная латарэя Расеі пасьля 1914г.

№ Выйгрышны квіток – 500000 руб (50 руб.узору 1922 г.)

*(Працяг будзе.)*
*Міхась Вераціла*

# «Пагоня» на нагрудных знаках расейскага войска

*На маю думку, вельмі цікавым з'яўляецца той факт, што акупацыйныя расейскія войскі, што месціліся на тэрыторыі этнічнай Беларусі да 1917 году пры стварэнні нагрудных вайсковых знакаў выкарыстоўвалі выяву нашай "Пагоні". Хутчэй за ўсё аўтары гэтых знакаў хацелі падкрэсліць, што вайсковая частка расквартыравана на беларусі. І яны добра ведалі, што сімвалам Беларусі з'яўляецца белы вершнік на чырвоным полі, спрадвечны беларускі нацыянальны а да нядаўняга часу і дзяржаўны герб "Пагоня". Знакі гэтыя вельмі рэдкія, але тое, што такія знакі існуюць, я думаю будзе цікава ведаць нашым фалерыстам. Выявы знакаў узяты з каталогу "Нагрудные знаки русской армии" Е.Н.Шавялева СПБ – 1993.*

## Знак 172-га пяхотнага Лідскага палка



Знак уяўляе сабой залаты вянок, увенчаны двухгаловым чорным арлом і перавязаны залатой стужкай з юбілейнымі датамі "1811 – 1911". Унізе на вянку два гербы: злева – герб г.Пензы, справа – герб г.Ліды (у верхней палове шчыта на чырвоным полі белы вершнік "Пагоня", а ніжэй, на зяленым полі, – сноп і серп). У вянку залатыя вензелі Аляксандра I і Мікалая II, а пад імі нумар палка – 172. Вышыня – 50 мм, шырыня – 35 мм.

## Знак лейб-гвардыі Літоўскага палка



Знак мае выгляд двухгаловага арла пад імператарскай каронай. На грудзях арла выява "Пагоні" (чырвоны эмалевы шчыт са срэбным вершнікам). Вышыня – 37 мм; шырыня – 53 мм. Белы метал. Выраблены фірмай "Э.Кортман".

## Знак 7-га гусарскага Беларускага палка



Знак мае выгляд чатырохканцовага крыжа з закруглёнымі кутамі. Па цэнтру крыжа, у авальнай разетцы герб (на верхнім, залацістым поле двухгаловы арол, на ніжнім, чырвоным, – белы вершнік "Пагоня"). На гарызантальных канцах крыжа даты: "1803 1903", на верхнім канцы – імператарская карона, на ніжнім – накладзеныя адзін на другі вензелі Аляксандра I і Мікалая II. Дыяметр – 42 мм. Пазалочаная бронза. Выраблены фірмай "Э.Кортман".

## Знак лейб-гвардыі Гарадзенскага гусарскага палка




Знак мае выгляд крыжа з надпісам "Virtuti militari". У цэнтры крыжа – выява "Пагоні" (у лаўровым вянку па зялёнаму полю, на чырвоным фоне, скача белы вершнік). Дыяметр 38 мм. Бронза. Выраблены фірмай "Э.Кортман".

## Знак Віленскага вайсковага вучылішча



Знак уяўляе сабой чатырохканцовы роўнабаковы крыж, канцы якога раздзелены на белае, чорнае эмалевае поле. На верхнім канцы, на чорным полі – белы эмалевы вензель Аляксандра II, на белым – залаты вензель Мікалая II. Па цэнтру крыжа на чорным фоне з зоркамі – белы вершнік "Пагоня". Дыяметр – 40 мм. Бронза.

## Адзнакі Полацкага кадэтскага корпуса

**ЖЭТОН**



Двухбаковы пяцікутны шчыток з вушкам і кальцом. На вонкавым баку па цэнтру два чырвоныя пагоны, пакладзеныя на крыж: ніжні – з сінім кантам і надпісам: ПК, які выхаванцы насілі з дня адкрыцця корпуса (1835 - 1865); верхні – з залацістым кантам, які насілі з 1885 да 1917 году. Зверху жэтона выява ядра з надпісам на ім: 7 октября 1812 года. Унізе – дата 1885: стужка залацістага колеру, на якой пісалася прозвішча закончаўшага корпус. Адваротны бок гладкі, з надпісам: L 1835 – 1885. Памеры 35 х 24 мм.



Крыж пакрыты чырвонай эмаллю з белым кантам на краі (колер пагонаў корпуса). Па цэнтру крыжа – залаты двухгаловы арол з вензелем Мікалая I на грудзях, над галовамі арла – вензель Мікалая II. Пад арлом – ядро і над ім надпіс: 7 октября 1812. Пад ядром дата: 1835 (год заснавання корпуса). Знак увенчаны імператарскай каронай. Памеры 45 х 36 мм.

## Беларускія каляндарыкі





# Полацкае піва

***Апошнім часам назіраецца цікавасць да калекцыянавання піўных этыкетак. Андрэй Новікаў з Полацка даслаў выявы этыкетак мясцовага піўзавода з прапановай азнаёміць з імі чытачоў «БК». Што мы і робім. Чакаем наступных матэрыялаў па іншых піўзаводах нашай краіны.***































# Наша пошта



Вашу газету № 19 прачытаў да апошняга радка з вялікім задавальненнем. Мяне трохі здзівіў Ваш крайне мяккі адказ янычару з Берасця. Філатэлія – атрыбут дзяржаўнасці, а Беларусь як дзяржава можа адбыцца толькі пры ўмове адраджэння нацыянальнай мовы. Безумоўна, гэтую цяжкую праблему павінна дапамагаць вырашаць і нацыянальная філатэлія. Жадаю Вам посьпехаў у працы і, калі ласка, на паддавайцеся на ні якія правакацыі па прарасейскай накіраванасці беларускай філатэліі.

Паведамляю Вам аб выданнях па ўкраінскай філатэліі.

*1. Часопіс "Пошта і філатэлія України" выдаваўся з 1995 году 1 раз у квартал. Усяго – 20 нумароў. З 2000г. падзелены на 2 самастойныя выданні: "Пошта України" і "Філатэлія України".*

*2. "Філатэлія України" – новае выданне з перыядычнасцю 6 нумароў на год.*

*3. "Бюлетэнь Асоціації філателістів України" выдаецца з 1991 года. Усяго выйшла 24 нумары. Па падпісцы не распаўсюджваецца. Прадаецца ў АсФУ.*

*4. "АсФУ-інформ" – аркуш аператыўнай філ. інфармацыі – найбольш папулярнае выданне. Распаўсюджваецца ксеракапіраваннем. Выйшла 117 нумароў.*

*5. "Галфілвіснік" – добры часопіс, выдаецца 6-ты год у Львове. Выйшла 24 нумары.*

*6. "Паштовы кур'ер" – газета з штомесячным дадаткам "Філатэлія", выдаецца "Укрпоштою", распаўсюджваецца па падпісцы.*

*7. "Віснік українскої філателії" выдаюць два энтузіясты – Могільный і Анголенко. Гэта звычайна вельмі сур'ёзныя навуковыя даследаванні. Выходзіць штоквартальна больш за 10 год.*

*8. "Закарпатський філателіст" выдаецца ў Ужгарадзе. Выйшла 4 нумары*

*9. "Колекціонер Донбасу" выдаецца ў Данецку. Гэта адзіны часопіс, дзе матэрыялы друкуюцца не толькі па украінску, але і па руску. Выйшла 9 нумароў.*

*10. "Дрогобицкий колекціонер" – газета, выходзіць не рэгулярна.*

*11. "Колекціонер Буковини" – газета, выдаецца ў Чарнаўцах.*

*12. "Миколаевський колекціонер" – газета, выйшаў пакуль 1 нумар.*

*13. Філателістичні новини – новая газета, павінна выдавацца з гэтага году.*

Акрамя перыядычных выданняў па украінскай філатэліі выдаюцца часопісы ў ЗША ("Українській філателіст" і "Трайдент веснік"), Аўстраліі ("Південний колекціонер"), Аўстрыі, Нямеччыне, Ангельшчыне, Францыі.

Магчыма, што нешта я не назваў.

Да пабачэння.

*З павагай,*
*А.Яўтушэнка*

# Паштовыя музеі

Задачай паштовага музея, як і любой установы такога роду, з'яўляецца збіранне, захоўванне, вывучэнне і экспазіцыя рэчавых, дакументальных, мастацкіх, літаратурных і іншых матэрыялаў па гісторыі развіцця і эксплуатацыі сродкаў сувязі. Амаль кожны паштовы музей мае раздзел філатэліі.

Усяго ў свеце налічваецца каля 32 важнейшых паштовых музеяў. Іх безумоўна больш, але правінцыйных, малых музеяў пошты ніхто не лічыў. Амаль усе экспазіцыі паштовых музеяў распавядаюць пра зараджэнне пошты, пачынаючы з XVI ст. Шмат экспазіцый прысвечана сярэднявяковай пошце і зусім мала старажытнай. Экспазіцыі паказваюць тэхнічнае і агульнае аснашчэнне паштовых устаноў рознага тыпу, дакументацыю паштовага абарачэння, абмундзіраванне і ўзбраенне паштароў, паштовыя нагрудныя і дарожныя знакі, паштовыя ражкі, карэты, паштовыя вазы, сумкі для пошты, аптычны тэлеграф (1792г.), тэлефон (1867г.) і г.д.

Першы паштовы музей быў адчынены ў Берліне ў 1872 годзе, зваўся Рэйхпостмузеум (Reichspostmuseum). Меў у сваёй экспазіцыі багацейшую калекцыю паштовых марак нямецкіх калоній, паштовых карэт, скрынь, уніформы. У часы другой сусветнай вайны ў 1943 – 44гг. музей моцна пацярпеў ад англа-амерыканскіх бамбардзіровак. Быў адноўлены і адчынены ў 1958 годзе як Постмузеум ГДР (Postmuseum der DDR). Частка калекцый берлінскага музея ў часы вайны была перавезена на захад Нямеччыны. У 1958 годзе у Боне вывезеныя калекцыі былі ўключаны ў экспазіцыю мясцовага музею. Цяпер у Германіі 7 паштовых музеяў: у Берліне (1872 - 1958), у Бонне (1872 - 1958), Гамбурзе (1938), Франкфурце на Майне (1872), Кобленцы (1937), Нюрнберзе (1902), Шверце (1933). У Еўропе – у Францыі 5 буйных паштовых музеяў. Усе яны адчынены ў пасляваенныя гады. Гэта музеі ў Парыжы, Нанце і іншых гарадах Францыі.

У Англіі нацыянальны паштовы музей адчынены ў 1965 годзе, а раздзел пошты быў створаны ў Брытанскім музеі яшчэ ў 1759 годзе. У Швейцарскіх гарадах Берне і Люцэрне паштовыя музеі былі створаны ў 1907 і 1959 гадах. Можна назваць яшчы такія краіны як Партугалія і Італія, паштовыя музеі ў якіх былі адчынены ў 1878 г. У ЗША ў 1846г., у Новай Зеландыі ў 1960 г., у Аўстрыі ў 1889г., у Аргенціне ў 1888г. У Расеі паштова-тэлеграфны музей быў адчынены ўвосень 1877 года. Пры ўтварэнні музея былі выкарыстаны экспанаты, прадастаўленыя тэлеграфным дэпартаментам Міністэрства ўнутраных спраў Расеі на Палітэхнічнай выставе, ў Маскве ў 1872 г. Спачатку музей быў закрытай ведамаснай ўстановай. Доступ да агляда экспанатаў быў магчымы толькі з асабістага дазволу буйнога чыноўніка, знатным чужаземцам і іншым высокім асобам. Музей быў невялікі. У 1915 годзе ў фондах было ўсяго 2500 прадметаў, у большасці сваёй тэлеграфнае абсталяванне.

Паштовы аддзел музея быў адчынены толькі ў 1889 г. З 1887 года з'явіліся першыя экспанаты па тэлефоннай сувязі. У 1893 годзе музей прымаў удзел у міжнароднай выставе ў Чыкага, у 1900 – у Парыжы. За два ўдзелы быў узнагароджаны медалямі. У 1912 годзе – медалём за ўдзел у выставе ў Пецярбурзе. Пасля 1917 года музей быў адчынены ў кастрычніку 1923 года.

У 80-х гадах XIX ст. пры музеі была навукова-тэхнічная бібліятэка. Цяпер у бібліятэцы звыш 150000 тамоў кніг і часопісаў пра пошту, тэлеграф і тэлефон.

З 1884 года пры музеі ствараецца дзяржаўная калекцыя знакаў паштовай аплаты. Цяпер паштовы музей Расеі валодае ўнікальнай калекцыяй марак рускай пошты ў Турцыі, на Кіпры, у царскай Расеі, Царства Польскага, Фінляндыі і іншых краін. У музейнай экспазіцыі сабрана поўная калекцыя марак РСФСР і СССР, аўтарскія пробы, узоры невыдадзеных марак, арыгінальныя малюнкі аўтараў, паштовых мініяцюр (сапраўдныя мастацкія творы графічнага мастацтва). У музеі сабраны ўсе выпускі паштовых картак і канвертаў Расеі да 1917 года і СССР. Калекцыя паштовых марак музея неаднаразова ўдзельнічала ў міжнародных філатэлічных выставах, атрымліваючы самыя высокія ўзнагароды. У бібліятэцы музея захоўваецца мноства паштовых дакументаў, распавядаючых аб гісторыі пошты і ў нашай дзяржаве.

Яшчэ ў адным паштовым музеі можна знайсці экспанаты і дакументы пра гісторыю пошты ў Беларусі. Гэты музей знаходзіцца ў Вроцлаве ў Польшчы. Вось яго кароткая гісторыя. У маі 1919 года ў час Першай сусветнай выстаўкі марак у Вроцлаве, арганізаванай Міністэрствам пошт і тэлеграфаў, было ўзнята пытанне аб арганізацыі паштовага музея і пачаўся збор экспанатаў. Музей быў заснаваны 25 студзеня 1921 г. У яго экспазіцыі было 4 раздзелы – бібліятэка, пошта, тэлеграф і тэлефон, філатэлія. У сакавіку 1928 г. музей быў адчынены ў Варшаве і некалькі разоў мяняў свой адрас. У 1921 г. музей меў ўсяго 114 экзэмпляраў, у 1925 іх было ўжо 1800. Калекцыя паштовых марак складалася ў асноўным з польскіх выпускаў. У час акупацыі ў 1939 – 1945 музей не працаваў. Частка калекцыі і экспанатаў была разабрана супрацоўнікамі і захавана. Пасля вызвалення Варшавы часцямі Чырвонай Арміі – 26 сакавіка 1945 года, музей узнавіў сваю працу. У перыяд з 1951 па 1956 гады музей быў зачынены і ўзнавіў сваю працу ў маі 1956 г. у Вроцлаве.

Сёння вроцлаўскі паштовы музей – буйнейшае сховішча паштовых рэчаў у Еўропе. У яго аддзелах: паштовым, філатэлістычным, тэлетэхнічным, бібліятэцы і архіве сабрана мноства экспанатаў па гісторыі пошты ў Польшчы, у былой Заходняй Беларусі, ВКЛ. У бібліятэцы музея каля 7 тысячаў тамоў кніг і журнаалаў аб працы і гісторыі пошты. У архіве каля 1000 розных старадаўніх паштовых дакументаў – падарожных, квітанцыяў, паштовых вопісаў, прысяг паштальёнаў, спісаў, тэлефонаў і г.д. Калекцыя знакаў паштовай аплаты – марак, канвертаў, паштовых картак, неаднаразова дэманстраваліся на міжнародных філатэлічных выставах і атрымлівалі самыя высокія ўзнагароды. Іншы раз экспанаты музея становяцца сюжэтамі паштовых выпускаў польскай пошты. Так, у 1981 годзе да 60-годдзя дзейнасці музея польская пошта выпусціла паштовую картку з выявай першай польскай маркі, старадаўняга тэлефоннага апарату, паштовай карэты, паштальёна і, самае цікавае, на паштовай картцы была паказана адна з нямногіх захаваўшыхся шыльдаў паштовай станцыі ў Слоніме. Гэты сюжэт, шыльда паштовай слонімскай "поштальтэрыі", быў паўтораны ў 1992 годзе на паштоваай марцы, выдадзенай да сусветнага дня пошты. Адначасова марка прапагандавала міжнародную філвыставу "Польшча - 93". На марцы надпіс: "Stacya Poczthaleryi Slonimska". Гэта шыльда XVIIIст.

А зараз некалькі слоў аб музеі пошты (сувязі) ў Менску. Ідэя стварэння паштовага музея ў Беларусі з'явілася яшчэ ў канцы 60-х гадоў. Вялікім стараннікам стварэння музея сувязі ў рэспубліцы быў міністр сувязі БССР Афнасьеў. Музейная экспазіцыя была адчынена ў будынку Мінскага паштама. Там былі размешчаны паштовыя дакументы, старая паштовая, тэлеграфная і тэлефонная апаратура. Вітала ідэя адчыніць паштовы музей у будынку 1-га гарадскога паштовага аддзялення ў Мінску па вул.Маскоўскай, аб чым пісала у 1976 г. газета "Вечерний Минск". Але ідэя так і не была ўвасоблена ў жыццё. У 80-тыя гады музей беларускай пошты было вырашана стварыць у старым будынку тэлефоннай станцыі (вул.К.Маркса), куды былі перанесены ўсе сабраныя экспанаты, невялікая бібліятэка, калекцыя марак і т.п. Але музей тады так і не адчыніўся. Частка экспанатаў прапала. У маі 1993 года ў гэтым будынку музей сувязі быў адкрыты. У невялікім памяшканні была разгорнута экспазіцыя: тэлефонная і кабельная прадукцыя, тэлеграфныя апараты, тэлетэхнічныя экспанаты, нешта аб самой пошце. Для філатэлістаў музей не прадстаўляе цікавасці. У ім няма філатэлістычнага раздзела, але ён ствараецца. Збіраецца калекцыя беларускіх марак. І ёсць надзея, што музей беларускай пошты будзе створаны.

Як гэта ні дзіўна, але ў стварэнні музеяў сувязі ў рэспубліцы добра папрацавалі мясцовыя энтузіясты. Ёсць невялікі паштовы музей у Баранавічах. Ён стварыўся як музей працоўнай і баявой славы сувязістаў г. Баранавічы, у 1993 г. ён стаў музеям сувязі горада і раёна.

У краязнаўчых музеях рэспублікі на гісторыю пошты мала звяртаюць увагі. Праяўляючы цікавасць да гісторыі пошты Беларусі, я ў свой час вырашыў пачэрпнуць звесткі аб пошце з раённых музеяў. Як высветлілася, краязнаўчыя музеі Століна, Пінска, Ганцавіч, Баранавіч і іншых райцэнтраў не маюць ніякіх звестак аб гісторыі раённай пошты. У іншых музеях, як ў Кобрыне, Барысаве, Лунінцы, такія звесткі ёсць, але невялічкія. Амаль ні адзін краязнаўчы музей рэспублікі не даў звестак па гісторыі пошты ў кнігу-хроніку "Памяць"(за выключэннем Лунінца і Пінску). А між тым пошта – адна з найвялікшых вынаходак чалавецтва. У адной кнізе аб пошце, выдадзенай у 1854 г. я чытаў, што "... па сведчанню Дзіадора за 2 тысячы гадоў да Нараджэння Хрыстова ў Індыі была ўжо перасылка наказаў..." і што "... перасылка такіх наказаў і звестак вялася з незапамятных часоў". Людзі часам не задумваліся аб тым, што дае ім пошта.

Бадай самым цікавым паштовым музеем раённага ўзроўню з'яўляецца музей пошты ў г. Лунінцы Брэсцкай вобласці. Ідэя стварэння музея гісторыі раённай пошты цалкам належыць начальніку раённага вузла сувязі Аляшкевічу. Напярэдадні юбілея лунінецкай пошты – 110 гадоў (1997г.)пачаўся збор экспанатаў. Н.Н.Аляшкевіч праявіў настойлівасць і ўменне і ў зборы старых дакументаў, фотаздымкаў, ганаровых грамат, узнагарод, газетных публікацый, архіўных звестак і ў афармленні экспазіцыі. Уся экспазіцыя размясцілася ў будынку раённага вузла сувязі. Карыстаецца папулярнасцю ў наведвальнікаў. Усё з цікавасцю разглядаецца і ўвесь час папаўняецца. На сённяшні дзень Лунінецкі музей пошты адзіная ў рэспубліцы такога рода ўстанова, створаная на грамадскіх пачатках з такой колькасцю экспанатаў і такой значнасцю. Адзіны недахоп гэтага музея ў тым, што месціцца ён у памяшканні, куды доступ наведвальнікаў абмежаваны. Хацелася б мець такіх музяў больш.

*Лей Коласаў*

# Лунінецкая пошта ганарыцца ўласным музеем – першым у Беларусі

Гісторыя Лунінца ў многім падобная на гісторыю навакольных мястэчак ды іншых невялікіх гарадоў, раскіданых па Беларускім Палессі. Таму, зразумела, асаблівых адметнасцяў, якія былі б цікавымі для падарожніка, гарадок мае няшмат. Але ў апошні год тут з'явіўся "аб'ект", які абяцае быць цікавым для любога даследчыка роднага краю і гісторыі Беларусі. Гэта раённы вузел сувязі.

Што цікавага, скажаце вы, можна знайсці на пошце? Мы звычайна ходзім туды, каб купіць канверт, атрымаць пенсію ці падпісацца на "Звязду". Я таксама думаў гэтак жа да таго часу, пакуль не пабываў у Лунінцы і не пагасціў у кіраўніка раённага вузла сувязі Мікалая Аляшкевіча. У горадзе створаны музей мясцовай пошты. Першы ў Беларусі, і пакуль нічога подобнага ў краіне не існуе.

Ідэя яго стварэння з'явілася напярэдадні 110-гадовага юбілею лунінецкай пошты, які адзначаўся ў мінулым годзе. Аўтарам яе выступаў М.Аляшкевіч. Задума так моцна запала ў душу кіраўніка вузла сувязі і яго калег, што літаральна за лічаныя тыдні былі сабраны сотні экспанатаў: фотаздымкі, дакументы, узнагароды, выразкі з газет і часопісаў. Такім чынам быў пакладзены пачатак музею. М.Аляшкевіч не пашкадаваў свайго адпачынку і прысвяціў вольны час пошуку звестак пра мясцовую пошту ў архівах, бібліятэках. Была перагорнута падшыўка раённай газеты за ўсе гады яе выхаду. Шукаць матэрыялы дапамагалі супрацоўнікі пошты, многае падаравалі ветэраны. М.Аляшкевіч сцвярджае, што яны цалкам падзяляюць яго задумы і без іх дапамогі наўрад ці ўдалося б рэалізаваць ідэю стварэння музея.



Напачатку ў сувязістаў не ўзнікала нават праблемаў з будынкам. Больш як сорак стэндаў, якія расказваюць пра 110-гадовую гісторыю развіцця лунінецкай пошты, размясціліся на сценах калідораў будынка раённага вузла сувязі. Яны даступныя для ўсіх жадаючых. Таму людзі ўжо заходзяць не толькі дзеля трывіяльнага "пазваніць" ці "купіць марку". Часта забягаюць школьнікі.

Фанатычная апантанасць лунінецкіх сувязістаў, якую можна толькі ўхваліць, не прайшла да гэтага часу. М.Аляшкевіч, разважаючы пра будучае музея, расказаў, што паштавікі набылі фотаапарат і відэакамеру. Таму пачалі "пісаць" гісторыю сённяшняга дня. Можна быць упэўненым, што праз некалькі гадоў цяперашнія здымкі таксама набудуць гістарычныя адзнакі.

Ветэраны, якія аддалі пошце гады свайго жыцця, прыходзячы ў музей, плачуць каля экспанатаў і дзякуюць, што іх не забылі, што іх праца аказалася патрэбнай і карыснай. Ля стэндаў сапраўды можна стаяць гадзінамі – за кожным дакументам – гісторыя, за кожным фотаздымкам – чалавечы лёс.

*Юрась Ляшкевіч*
*(Перадрукоўка са «Звязды»)*




Газета
"Беларускі Калекцыянер"
Год заснавання 1990
Рэдактар: Алесь Сярожкін
Рэдакцыйная калегія:
Юры Санько, Алег Граблеўскі.
Вёрстка: Алена Міначкіна

Пры перадруку спасылацца на Беларускі Калекцыянер.
Рукапісаў рэдакцыя не вяртае й не рэцэнзуе. Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі
Газета выдаецца з дапамогай Цэнтра Філоны Кміты.
Падпісана ў друк 30.05.2000г.

Адрас для допісаў:
Сярожкін А.М.
211030,
Орша-9, п/с 46, Беларусь.
Наклад 299 асобнікаў.